# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 25 (1571) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 22 ЧЭРВЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.

## Абпаленыя вайной

## 45 ГАДОЎ ТАМУ НАЗАД

22 чэрвеня 1941 года гітлераўская Германія вераломна напала на Савецкі Саюз. Старэйшае пакаленне Беласточчыны добра памятае гэты дзень і цяжкія дні ваеннага ліхацення.

Страшна ўявіць, што было б з усімі намі, каб у гэтай крывавай сутычцы са злейшым ворагам чалавецтва савецкі народ не выстаяў, не перамог, каб Савецкая Армія, а пазней і іншыя арміі, у тым ліку і Войска Польскае, не скруцілі галаву гітлераўскай гідры.

На Нюрнбергскім працэсе перад усім светам была раскрыта воўчая сутнасць фашызму. Адзін з фашысцкіх завадатаяў Кейтэль пацвердзіў, што ўсё насельніцтва акупіраваных краін павінна было стаць рабамі, а тыя, хто не захацеў бы прыняць „новы парадак“, былі асуджаны на смерць. На Беласточчыне ж меў быць створаны велізарны лясны запаведнік для навуковых даследаванняў і паляванняў.



За трохгадовы перыяд акупацыі ў „Бецырк-Бялісток“ замучана 320 тыс. чалавек, у тым ліку 200 тыс. яўрэяў і больш як 120 тыс. палякаў і беларусаў. спалена цалкавіта 24 вёскі, а іх жыхары расстраляны, 146 вёсак часткова знішчана, спалена 413 школ і 189 бібліятэк, вывезена ў лагеры смерці 24 тыс. чалавек.

Пра гітлераўскія злачынствы нельга забываць. Пра іх трэба гаварыць, напамінаць маладому пакаленню. Нельга забываць аб

(Працяг на стар. 8)



На роднай зямлі. У засені вяза-волата такі зацішак!.. У вёсцы Волька Церахоўская каля Чаромхі. Фота М. Гайдука.

## ХРОНІКА

8.05. У Варшаўскім аддзеле БГКТ адбылася сустрэча з прадстаўнікамі Пасольства СССР у Польшчы на чале з І сакратаром пасольства А. Харчэнкам. Старшыня аддзела д-р М. Аляксеюк пазнаёміў гасцей з гісторыяй і цяперашняй дзейнасцю БГКТ, яго праблемамі і патрэбамі. У дыскусіі выступілі А. Харчэнка, А. Волаў, А. Анішэўская, Ф. Галёнка, М. Іванчук і іншыя. Абмяркоўваліся справы культурна-асветнага абмену паміж адпаведнымі ўстановамі ў БССР з БГКТ, патрэбы БГКТ на падручнікі, кнігі і іншыя выданні. Сустрэча прайшла ў вельмі цёплай, сардэчнай атмасферы.

10.05. Адбылася сустрэча ўдзельнікаў студэнцкага рэйду „Развітанне“ з мясцовай моладдзю ў клубе ў Семяноўцы. З канцэртам выступілі „Сямяне“ з Семяноўкі і „Дубіны“ з Дубін.

10.05. З нагоды 30-годдзя БГКТ і „Нівы“ ў Паўночным Востраве, гм. Шудзялава, адбыўся ўрачысты сход гуртка.

16.05. У Дамбрууках адбыўся сход гуртка БГКТ, на якім абмяркоўваліся пытанні актывізацыі таварыства ў вясковым асяроддзі.

18.05. У Чыжах адбылося раённае Людовае свята. Жанчыны з гуртка БГКТ у Курашаве падрыхтавалі на выстаўку караваі, а з канцэртам выступіў калектыў „Тыневічанкі“ з Тыневіч Вялікіх.

20.05. У Агароднічках, гм. Супрасль, адбыўся сход гуртка БГКТ, прысвечаны арганізацыі харавога жаночага калектыву, які ўзначаліць Лідзія Матвейчук.

21.05. Адбыўся пленум праўлення аддзела БГКТ у Чыжах з нагоды 30-годдзя таварыства і „Нівы“.

22.05. БГКТ арганізавала

(Працяг на стар.5)

УВАГА: Праз тыдзень — новы расклад паяздоў з Бельска!




## ЗА СЯЛЯНСКУЮ ГОРДАСЦЬ!

Бяру ў рукі „Тэзісы Цэнтральнага Камітэта ПАРП на X з'езд партыі“. У раздзеле „Развіццё сельскай гаспадаркі і вёскі“ сказана:

„Мэтай сельскагаспадарчай палітыкі з'яўляецца задавальненне растучых харчовых патрэб грамадскасці пры адначасовым дасягненні ў гэтай галіне гаспадаркі поўнай эканамічнай незалежнасці і павышэння ўзроўню жыцця жыхароў вёскі“.

Сядзім мы ў прасторнай кухні двухпавярховага мураванага асабняка, які ў нічым не нагадвае традыцыйную вясковую хату. Кухня прасторная, з водаправодам і цэнтральным ацяпленнем, сцяна над плітою абліцавана каляровымі керамічнымі пліткамі, усюды чысціня і парадак.

Я гляджу на Мікалая Аляксеюка і думаю: як ён разумее гэтую асноўную мэту нашай партыі ў галіне сельскагаспадарчай палітыкі?

Гаспадыня, пані Ніна, заўважыла, што я амаль прыдзірліва прыглядаюся да іх хатняга абсталявання і да яе мужа.

— Каб вы ведалі, як было тут зімою, калі мы не мелі чым паліць! Трое сутак безупынку мы з мужам на змену стаялі за вугалем у Боцькаўскім ГСе!

— Вось менавіта, — падхоплівае яе думку муж, Мікалай Аляксеюк, — нельга дапусціць, каб такое штосьці паўтарылася! Вугаль для сучаснага гаспадара з'яўляецца зараз адным з асноўных сродкаў вытворчасці. Каб рабочыя ды іншыя працаўнікі розных устаноў мелі права патрабаваць ад нас, земляробаў, забеспячэння харчамі, дык вясковая гаспадарка мусіць атрымаць дастатковую колькасць сродкаў прадукцыі...

— А тут нават не было чым апырскваць пшаніцу ад пустазелля, — перабіўшы мужа, дакінула Ніна.

— Я як дэлегат з'езда, калі толькі будзе такая нагода, — прадаўжаў Мікалай, — абавязкова пастараюся гэту справу ўзняць.

Гэта яшчэ параўнальна мала-

(Працяг на стар. 3)

## Што новага ў СССР?

У Беластоку адбылося спатканне галоўнага рэдактара „Гродзенскай праўды“ Аляксандра Богуша з партыйным актывам горада Беластока. Пайшла размова пра актуальныя справы ў СССР.

У Савецкім Саюзе на парадку дня надалей застаецца справа барацьбы з алкагалізмам.

За п'янства ў гадзінах працы, ды і наогул на прадпрыемствах прадугледжаны суровыя кары, пазбаўленне прэміяў, грашовыя штрафы.

Існуе цяпер у СССР Добраахвотнае таварыства няп'ючых, якое мае шмат сваіх клубаў. Таварыства прапагандуе арганізаванне безалкагольных вяселляў, хрысцін, імянін, юбілеяў, сяброўскіх спатканняў і г.д.

Усе арганізацыі і ўстановы абавязаны праследаваць п'янства, пагарджаць ім. А што зрабіць з вольным часам, з тым часам, які многімі выкарыстоўваўся на „культурныя мерапрыемствы“, звязаныя з піццём гарэлкі?

Каб запоўніць вольны час і адцягнуць ахвоту ад выпіўкі, арганізоўваецца мноства рознага роду культурна-асветных, спартыўных і іншых цікавых мерапрыемстваў не толькі ўстановамі і арганізацыямі, якія павінны займацца такога роду дзейнасцю. Да гэтага абавязаны таксама дырэкцыі ўсіх фабрык і прадпрыемстваў. Дырэкцыі не толькі павінны займацца вытворчасцю, умовамі працы рабочых і іх заробкамі. Да іх абавязку належыць таксама арганізаванне на суботу і нядзелю цікавых выхаваўчых мерапрыемстваў. „Гродзенская праўда“ на сваіх старонках шырока паведамляе сваіх чытачоў аб многіх такіх мерапрыемствах, дзе і калі яны адбываюцца.

Што датычыць працы прадпрыемстваў, дык галоўная ўвага кладзецца на якасць прадукцыі, на ашчаднасць сыравіны і, зразумела, на павелічэнне вытворчасці. І гэта адбываецца коштам мадэрнізацыі прадпрыемстваў і коштам павелічэння прадукцыйнасці працы, а не коштам прыняцця на работу большай колькасці працуючых. У СССР адчуваецца недахоп рабочай сілы. Таму, між іншым, неабходна вельмі эканамічна выкарыстоўваць яе.

У Савецкім Саюзе ўзнята таксама жорсткая барацьба супраць непрацоўных даходаў, супраць усялякага роду камбінатараў, хітруноў, спекулянтаў. Непрацоўны заробак не толькі праследуецца, але таксама і караецца. Не можа быць так, каб чалавек, які сам не працуе, жыў вынікамі чужой працы. Напрыклад, некаторыя перавозяць фрукты з поўдня на поўнач, дзе яны значна даражэйшыя, і з гэтага нажываюцца. Альбо нехта мае нібы для сябе дачу, жывуць жа ў ёй курортнікі: плацяць за дачу вялікія грошы, а ўласнік дачы выкарыстоўвае дзяржаўную электрычнасць, газ, ваду.

Некаторыя грамадзяне выкарыстоўваюць з мэтай нажывы дзяржаўныя машыны і механізмы, транспартныя сродкі, жылую плошчу, паліва, сыравіну і матэрыялы. На прадпрыемствах і ў гандлі, у бытавых, камунальных і медыцынскіх установах, у навучальных установах здараюцца факты дадатковай аплаты за паслугі, факты ашукоўвання грамадзян, пратэкцыянізму. На шляху выкарыстання сваёй пасады ў карысных мэтах нярэдка ўваходзяць адказныя асобы.

Такія факты ідуць уразрэз з інтарэсамі працоўных, з сацыялістычным ладам, яны выклікаюць абурэнне грамадзян.

ЦК КПСС прыняў пастанову, у якой запрапанаваў ЦК кампартый саюзных рэспублік і органам мясцовай улады распрацаваць і ажыццявіць канкрэтныя меры па ўзмацненню барацьбы з непрацоўнымі даходамі. (мх)

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### ТРАСЫ БЛАКІТНАГА ПАЛІВА

Блакітны факел успыхнуў у раённым цэнтры Ляхавічы Брэсцкай вобласці. Так тут адзначылі пачатак цэнтралізаванай газіфікацыі горада. Паліва прыйшло па 12-кіламетроваму трубаправоду ад магістралі Таржок — Мінск — Івацэвічы. Новая магутная кацельня райцэнтра заменіць цяпер сем працуючых на цвёрдым паліве. Газ паступіць у жылыя дамы гараджан, а неўзабаве і ў многія аддаленыя вёскі раёна. Тым самым завершаны важны этап газіфікацыі гарадоў і вёсак вобласці.

Працягласць трубаправоднай сеткі для транспарціроўкі прыроднага газу вырасла да 1200 кіламетраў, дзейнічае 25 размеркавальных станцый, якія пастаўляюць прамысловым і камунальна-бытавым прадпрыемствам, калгасам і саўгасам амаль паўтара мільярда кубаметраў паліва ў год. Ім цяпер карыстаюцца ў быту амаль усе гараджане і значная частка сельскага насельніцтва.

Ад транзітных магістралей намечана працягласці дванаццаць адгалінаванняў. Асаблівая ўвага ўдзяляецца забеспячэнню прыродным газам гаспадарак, якія інтэнсіўна развіваюцца, буйных жывёлагадоўчых комплексаў індустрыяльнага тыпу. Аб'ём спажывання блакітнага паліва ў сельскай гаспадарцы вобласці павялічыцца ў 3,7 раза.

### ГРОДНА-ЛІМОЖ

Беларускі горад Гродна і французскі Лімож — гарады-пабрацімы. Яны падтрымліваюць паміж сабой цесныя культурныя кантакты, абменьваюцца дэлегацыямі.

Нядаўна ў гродзенскай сярэдняй школе № 8 прайшоў Тыдзень параднёных гарадоў. Члены клуба інтэрнацыянальнай дружбы сустрэліся з вучнямі іншых школ горада, расказалі ім пра свае кантакты з французскімі сябрамі, падзяліліся планамі аб арганізацыі ў школе музея гарадоў-пабрацімцаў. Члены клуба ўжо некалькі гадоў займаюцца зборам экспанатаў для яго. У наступным навучальным годзе музей будзе адкрыты.

### ПОШУК УЗНАЧАЛІЛІ МАСТАКІ

Расцвілі васількі і рамонкі ў цэхах Аршанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Фабрычныя тэхнолагі распрацавалі фасоны жаночага адзення сучаснага пакрою, забеспячэнцы пакланапцілісь, каб вытворчасць мела баваўняныя і льняныя тканіны разнастайных таноў і расфарбовак, а мастакі прыдумалі арыгінальнае афармленне кожнай мадэлі.

Першыя партыі вырабаў спадабаліся пакупнікам. Ужо звыш 70 гандлёвых арганізацый рэспублікі пажадалі мець моднае адзенне з аршанскай маркай. Да канца года на прылаўкі магазінаў будзе адпраўлена прадукцыі на суму каля двух мільёнаў рублёў.

І яшчэ адну навінку рыхтуюцца выпускаць фабрычныя ўмельцы напярэдадні летняга сезону — плеценыя кашолачкі са спатры. Вырабы з гэтага экзатычнага матэрыялу, які паступае ў горад на Дняпры з братняга В'етнама, несумненна, спадабаюцца беларускім жанчынам.

### ПАЭТУ ПАКЛАНІЦЦА

Кароткі, але незвычайна яркі творчы шлях аднаго з заснавальнікаў беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Аб ім расказвае пастаянна дзеючая экспазіцыя, якая адкрылася ў старадаўнім асабняку ў цэнтры Гродна. Тут паэт жыў у 1892-1894 гадах на вуліцы, якая цяпер носіць яго імя.

Габеленавы, у поўны рост партрэт Максіма Багдановіча з яго вершаваным радком „У родным краю ёсць крыніца жывой вады“ адкрывае гэту экспазіцыю. У асобных раздзелах прадстаўлены асабістыя рэчы паэта, партрэты яго сяброў-паплечнікаў, родных і блізкіх, медальёны, паштоўкі з відамі старажытных Гродна і Вільнюса, фотакопіі газет тых часоў, рэпрадукцыі карцін старых майстроў. Цэнтральнае месца займаюць творы класіка.

Вялікую дапамогу ў стварэнні экспазіцыі, якая стала літаратурным аддзелам абласнога гісторыка-археалагічнага музея, аказалі літаратары рэспублікі.

### СПОРТ

Усе дзесяць савецкіх спартсменаў заваявалі залатыя медалі чэмпіяната Еўропы па самба, які праходзіў у Ленінградзе. Сярод новых чэмпіёнаў і мінчанін Уладзімір Япрынцаў (вага да 68 кг).

У спаборніцтвах удзельнічалі самбісты Балгарыі, Вялікабрытаніі, Галандыі, Іспаніі, Італіі, Францыі і Швейцарыі.




### ПОПЫТ НА НАРКАМАНАЎ

Вынік медыцынскай праверкі, праведзенай сярод 335 ігракоў студэнцкіх каманд, якія складаюць рэзерв прафесіянальных клубаў нацыянальнай лігі амерыканскага футбола (НФЛ), прыцягнуў увагу грамадскасці. Яшчэ б! Вывад: кожны шосты — наркаман. Абследаванне ў трэніровачных цэнтрах упершыню ўключала ў сябе тэст на марыхуану і какаін, і ў 57 выпадках ён даў станоўчы вынік.

Гэта паведамленне агенцтва АП, безумоўна, характарызуе „караля“ амерыканскага прафесіянальнага спорту. Самі футбалісты, адказваючы на пытанне, чаму наркотыкі атрымалі вялікае распаўсюджанне іменна ў іх асяроддзі, гавораць, што галоўная прычына — у характары самой гульні. Бязлітаснасць, пераходзячая ў жорсткасць, рэальная магчымасць атрымаць сур'ёзную, а часам і смяротную траўму — гэта прымушае спартсменаў шукаць сродкі, якія дазволяць адключыцца ад рэальнасці, забыцца. Так з'яўляецца прыхільнасць да наркотыкаў. А „попыт“ імгненна нараджае „прапанову“. Цяпер клубы НФЛ, як рыбамі-прыліпалі, акружаны гандлярамі, у арсенале якіх каля 90 відаў дурманячых рэчываў.

Па сведчанню часопіса „Спортс ілюстрэйтэд“, агенты падпольных фірм усюды суправаджаюць спартсменаў, пранікаюць у трэніровачныя цэнтры і нават падыходзяць да поля ў час трэніровак, прапануючы свае паслугі футбалістам. Пры гэтым задача „распаўсюджвальнікаў“ аблягчаецца тым, што многія трэнеры — самі ў мінулым ігракі — закрываюць вочы на іх дзейнасць. А часам і выступаюць у ролі пакупнікоў або перакупшчыкаў.

У ЗША наркотыкі становяцца спадарожнікам многіх відаў спорту. Як паведамляе АП, аўтагоншчык Джон Пол-малодшы прызнаўся: мне нават цяжка назваць маіх калег, якія не ўжывалі б „траўку“. Сам Джон Пол прыгавораны да пяці гадоў зняволення за спробу ўвозу марыхуаны ў Злучаныя Штаты. Рызыка і напружанне барацьбы ў гонках прафесіяналаў, сказаў ён, прыводзяць да наркотыкаў і тых гоншчыкаў, для якіх у пачатку іх кар'еры нават думка аб гэтым здавалася забароненай.

Сітуацыя блізкая да крытычнай, прызнаюць кіраўнікі амерыканскага спорту. І, на першы погляд, яны не на жарт устрывожаны становішчам, якое склалася. З дапамогай урачоў распрацоўваюцца новыя універсальныя метады праверкі, ствараюцца дэталёвыя праграмы барацьбы з наркаманіяй, на паперы ўзмацняюцца меры пакарання, а на справе...

Агенцтва АП паведаміла, што з 57 футбалістаў, трапіўшых у „чорны спіс“ спартсменаў-наркаманаў, 26 атрымалі запрашэнне... выступаць за клубы НФЛ. Што ж, у трэнераў складаная сітуацыя — каманда павінна прыносіць прыбытак, сказаў спартыўны дзеяч з Новага Арлеана, даўшы інтэр'ю карэспандэнту АП, але які пажадаў быць невядомым. З наркаманіяй трэба змагацца, працягваў ён, але... потым. Сёння гэтыя маладыя ігракі яшчэ хутка бегаюць, іх рукі моцныя, і яны патрэбны клубам. Патрэбны для перамогі любой цаной.

В.Г.

 

## НА ТРАСЕ „РАЗВІТАННЯ"

Некалькі каляровых палатак у старой жвіроўні непадалёк Ляшукоў. Ранкам 10 мая г.г. чуваць тут гоман маладых людзей. Гэта ўдзельнікі рэйду „Развітанне". Прыехалі сюды з Беластока, Бельска, Варшавы, Кракава, Гданьска, каб адпачыць. Пасля супольнага сняданку хутка сабраліся, падзяліліся на дзве групы, якія пойдуць у Семяноўку рознымі маршрутамі.

Адзін з іх вядзе ляснымі дарогамі ў Тарнопаль. Па дарозе хвіліна задумы ля помніка расстраляных гітлераўцамі ў 1941 годзе. На помніку прозвішчы лякаркі і медсястры — грамадзянак СССР і некалькіх жыхароў з Лукі і Тарнопаля.

З асфальтоўкі ў Тарнопалі група кіруецца на хутар Полымя. Адпачынак на зялёным панадворку пад бярозай-прыгажуняй, што расце каля дома паэта-„белавежца" Уладзіміра Гайдука. Прывітанне жаданых гасцей і аўтарская сустрэча. Паэзія на ўзлонні прыроды. Моладзь уважліва слухае строфы пра сялянскае жыццё, родную прыроду. Вершы паэта навеяны таксама народнай творчасцю гэтай зямлі. Гутарка з паэтам, які сцвярджае: „Я ніколі не адчуваў ніякіх комплексаў прыніжанасці таму, што беларус. Цяпер цешыць мяне факт, што маладыя людзі не забываюць, хто яны і вяртаюцца да сваіх мясцін".

Пасля дзвюх гадзін — развітанне, словы падзякі і здымкі на памяць. Траса рэйду вядзе далей праз Луку ў Семяноўку.

Да новых, часцейшых сустрэч!

**Ян Мордань**

**Людзі БГКТ**

## З ЛЮБОЎЮ ДА ПЕСНІ

Калі слухаем беларускі хор Гайнаўскага дома культуры, не можам не звярнуць увагі на аднаго з яго ўдзельнікаў, мілагучнасць голасу якога выдзяляецца на фоне хору.

Гэта спявае Янка Якімюк — тэхнік бытавых машын гайнаўскага пункта паслуг Ваяводскага прадпрыемства ўнутранага гандлю.



Харысты заахвоцілі яго ўступіць у іх калектыў і гурток БГКТ. Было гэта ў чэрвені 1982 года. Рэпетыцыі, размовы аб беларускіх справах і асабліва аб прапагандаванні беларускай песні выклікалі жаданне дзейнічаць на беларускай ніве. Неўзабаве быў ён выбраны членам праўлення гуртка БГКТ, а ў мінулым годзе, падчас арганізавання гарадскога аддзела БГКТ у Гайнаўцы, БГКТ-оўцы горада даверылі яму функцыю старшыні аддзела.

Пад яго кіраўніцтвам БГКТ у Гайнаўцы значна ажывіла сваю дзейнасць. Да такіх важнейшых, гуртуючых членаў БГКТ мерапрыемстваў трэба залічыць, апрача канцэртаў хору і конкурсу на беларускую песню, два навагоднія балі (каляндарны і традыцыйны). З іх быў атрыманы даход у суме 11 тысяч злотых і яго перадалі на будову Музея помнікаў беларускай культуры. Шмат задавальнення даў удзельнікам кулік, на які прыбыло 80 асоб. Быў ён цікавы, выхаваўчы і карысны, у праграме яго было шмат песень і музыкі. Прадбачыцца таксама ў гэтым культурным сезоне беларускі народны фэстын, які адбудзецца ў Гайнаўцы, ды папулярна-навуковая сесія, прысвечаная XXX гадавіне Беларускага таварыства і „Нівы".

Аддзел прысвячае шмат увагі супрацоўніцтву з арганізацыямі і ўстановамі горада, у тым ліку і з Гайнаўскім беларускім ліцэем. У Гайнаўцы існуе 8 гурткоў БГКТ, якія аб'ядноўваюць больш 700 чалавек, сярод іх: гурток БГКТ на прадпрыемстве „Лес" — 50 асоб, у былым ПЗГСе — 30 асоб, у спомненым хоры — 50 членаў.

У даволі складанай у горадзе працы на беларускай ніве вылучаюцца такія людзі, як Вера Мацюка, Сяргей Харкевіч, Марыя Сапяжынская, Галена Ігнацюк, Уладзімір Суліма, Мікалай Нікалаюк, Мікалай Еўдасюк, настаўнікі беларускага ліцэя і іншыя. Заўсёды парадай, а калі трэба, дык і дзейснай дапамогай служаць мясцовыя члены Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ — Кастусь Майсеня і Мікалай Бушко.

— Супольная, зладжаная праца і належнае разуменне сваіх грамадскіх абавязкаў дае добрыя вынікі і прыносіць задавальненне, — сцвярджае старшыня. — У сферы культурнай дзейнасці ў горадзе БГКТ займае галоўнае месца.

Янка Якімюк паходзіць з Падрэчан (цяпер Чыжоўская гміна). Закончыўшы пачатковую школу ў Локніцы, ён паступіў у Гайнаўскі механічны тэхнікум на аддзяленне будовы машын і пасля яго заканчэння ў 1968 годзе распачаў працу ў „Эльдоме". Добрых спецыялістаў па рамонту бытавых машын патрэбна ўсё больш. І Янка павышаў свае кваліфікацыі. У 1972 годзе — на фабрыцы халадзільнікаў і аўтаматычных сціральных машын „Поляр" у Вроцлаве, у 1975 годзе — на фабрыцы швейных машын „Лучнік" у Радоме, у 1977 годзе — на фабрыцы пыласосаў „Зэльмор" у Жэшове, а ў 1984 годзе — на фабрыцы халадзільнікаў у Мінску, сталіцы БССР.

Цяпер Янка Якімюк — шанаваны спецыяліст. За добрую працу ў лютым б.г. ён быў узнагароджаны Медалем 40-годдзя ПНР.

Янка Якімюк ужо моцна ўрос у свой горад. Тут ён не толькі атрымаў прафесію і працу. Тут ён заснаваў сям'ю, тут нарадзіліся яго сын і дачка, тут, на Сталёвай вуліцы, пабудаваў ён сабе двухпавярховы, прасторны дом, выпешчаны ўласнымі рукамі. За чысцінёй і парадкам у хаце сочыць жонка Янкі, Марыся; яна працуе ў мясцовым насенным цэнтры.

У вольныя ад працы дні Янка ездзіць у Падрэчаны ці Чыжы і памагае бацькам або цесцям пры розных гаспадарскіх работах. Едзе ён туды з задавальненнем, бо ў ім жыве душа сялянская, уражлівая на прыгажосць прыроды, на ўсе вясковыя справы, на родныя традыцыі.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара



**Ансамбль даўняй песні Вышэйшай педагагічнай школы ў Быдгашчы, II узнагарода на V Днях царкоўнай музыкі „Гайнаўка-86".**

вельмі блізкай пажаданням яе творцаў.

Прыхадскія хоры выконваюць больш спеў „sensu stricto" царкоўны, літургічны. Вельмі патрэбна гэтакая праца царкоўных хораў — яны паказваюць і павінны гэта рабіць — дасканаласць і веліч гэтага спеву. Царкоўны праваслаўны спеў — адно з найкаштоўнейшых дасягненняў праваслаўя — здаўна ўздзейнічае на чалавека ў самым лепшым сэнсе, разбуджае ў ім высокія пачуцці міру, дабра, прыгажосці і справядлівасці.

Калі я слухала хоры музычных і педагагічных школ з далёкіх гарадоў Польшчы, прызнаюся, з прыкрасцю думала пра шматлікія хоры музычных, тэатральных, педагагічных, палітэхнічных і медычных школ горада Беластока, якія зусім не цікавяцца тым, што яны маюць пад бокам, і ў рэпертуары свае чамусьці зусім не ўводзяць „musice occidentalis", хоць спяваюць яны вельмі многа польскіх, італьянскіх сярэдневяковых песень, і амерыканскіх „spirituels". Няўжо славуты „комплекс правінцыі"? А можа, толькі ігнаранцтва?

**Вера Леўчук**
Фота В. Рудчыка

(Працяг са стар. 1)

## ХРОНІКА

кніжную латарэю ў Градзіску каля Сямяціч. Прададзена каля 150 кніг.

25.05. Члены гуртка БГКТ у Вярхлессі, гм. Шудзялава, на сходзе вырашылі арганізаваць у ліпені г.г. беларускі фэст у сваёй мясцовасці.

— У Бельскім доме культуры адбыўся агляд беларускіх тэатральных калектываў. З цікавымі і на высокім узроўні пастаноўкамі выступілі Бельскі тэатр паэзіі „Парнас" з мантажам „Роднае" па творах пісьменнікаў аб'яднання „Белавежа", драматычны гурток з в. Піліпкі, гм. Бельск, паставіў п'есу „Пярэстая красуля" і самадзейнікі з Тыневіч, гм. Нарва, прывезлі арыгінальную фальклорную пастаноўку „Адведкі". „Парнас" выступіў таксама з гумарыстычным абразком „Аўтарская сустрэча".

31.05. З нагоды юбілею БГКТ і „Нівы" адбыўся сход гуртка БГКТ у Гданьску. З дакладам выступіў сакратар ГП — Віталій Луба. Гданьскі хор, якім кіруе Анатоль Валічэнка, выступіў з канцэртам беларускіх песень. (вл)

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Jan Anchimiuk, Prawosławie w Polsce i na świecie, „Chrześcijanin a Współczesność", Wrocław 1985, Nr 2, ss. 3—10.

Kazimierz Bobowski, Szkice z dziejów prasy Kościoła Prawosławnego w Polsce w latach 1918—1939, тамсама, ss. 24—28.

В. З. Санников, О степени лексической близости древнерусской, старорусской, староукраинской и старобелорусской письменной речи, „Восточные славяне. Языки, история, культура", Москва 1985, стр. 156-163.

А.П. Груцо, Наименование некоторых частей руки и ноги в белорусском языке, тамсама, стар. 180-184.

Jan Kazieko, Wybrane elementy infrastruktury i wyposażenia rolnictwa w niektóre środki produkcji w dolinie Narwi na odcinku od Siemianówki do Suraża, „Nauka i Praktyka", Białystok 1984, Nr 3, ss. 187—209.

Zdzisław Lejwoda, Edukacja kulturalna dzieci i młodzieży (w woj. białostockim), „Problemy Oświaty na Wsi", Warszawa 1985, Nr 1, ss. 24—25.

Bożena Kastory, Notatki białoruskie. Zwierciadło bazyliszka, „Życie Warszawy", 1985, Nr 184, s. 5.

Bożena Kastory, Notatki białoruskie. Chemia życia (Instytut Chemii Bioorganicznej Białoruskiej Akademii Nauk), „Życie Warszawy", 1985, Nr 189, s. 5.

Andrzej Kołodziejski, Hejnał w Kruszynianach (Tatarzy polscy), „Radar", Warszawa 1985, Nr 31, s. 9—10.

**П. Байко**



 

# АЎТОБУСАМ ПРАЗ ПУШЧАНСКІЯ ВЁСКІ

Жыхары вёсак Пагарэльцы, Тэраміскі і Буды, схаваных у глыбіні Белавежскай пушчы, здаўна ўжо скардзіліся на недахоп якога-небудзь спалучэння з найбліжэйшымі большымі мясцовасцямі, г.зн. з Белавежай і Гайнаўкай. Калі камусьці спатрэбілася ўладкаваць нейкія справы ў горадзе, трэба было ратавацца ўласным, не заўжды адпаведным, транспартам. Найцяжэй даводзілася зімой. Здаралася таксама, што вёскі былі зусім адлучаны ад свету.



Стужку ў Пагарэльцах перарэзвае I сакратар ГК ПАРП у Белавежы, Георгій Бароўскі. Побач стаіць начальнік Белавежскай гміны, мгр. Яўген Паўлючук.

У 60-тыя гады, па ініцыятыве тагачаснага старшыні грамадскай Рады нарадовай Мікалая Седуня (ён ужо не жыве), жыхары з усяе гміны пачалі будаваць дарогу з Белавежы ў Пагарэльцы. Зразумела, пачынам! Праца па розных прычынах зацягвалася, спынялася, але з канцом 70-тых гадоў можна было па ёй ужо даволі добра ездзіць. Мясцовыя пачалі называць гэтую дарогу — у памяць ініцыятара яе пабудовы — Седунёвай.

Па ініцыятыве гмінных улад вяліся таксама працы пры ўладкаванні іншых адрэзкаў старой дарогі да Будаў. Калі ўжо можна было ездзіць без большых перашкод па ёй аўтамашынамі, начальнік гміны выступіў з просьбай да ПКС-у, каб пусцілі на гэтай трасе аўтобусную лінію. На жаль, атрымаў адказ, што пакуль на дарозе не паявіцца асфальт, няма чаго і марыць пра лінію, бо на такой дарозе аўтобусы доўга не паездзяць. Што ж было рабіць! Маючы за сабой столькі людскага поту не выпадала затрымлівацца пры самай мэце. Чатыры гады назад гмінным уладам удалося дамовіцца з усімі зацікаўленымі, а перш за ўсё адпаведнымі для вырашэння справы прадпрыемствамі і праз год на дарозе пачаў пракладвацца асфальт. Дзяржаўныя лясы згадзіліся выканаць 4,5-кіламетровы адрэзак ад шашы Гайнаўка-Белавежа па сяло Буды. Выдаткавалі каля 40 млн. злотых. Апошнім, 10,3-кіламетровым адрэзкам занялася Гмінная ўправа. Успамог яе фінансава Беластоцкі ваявода. Дзякуючы таксама разуменню важнасці справы Раёнам будавання дарог і мостаў з Бельска Падляшскага, які быў адказны за пракладку асфальту, праца ішла вельмі хутка і, што найважнейшае, датэрмінова.

I вось наступіў момант, які амаль усім жыхарам пушчанскіх сёлаў прынёс радасць. 1 чэрвеня г.г. здадзена ў карыстанне аўтобусная лінія з Гайнаўкі праз Буды, Тэраміскі і Пагарэльцы ў Белавежу і ў адваротным кірунку. Першы аўтобус прывіталі кветкамі, спевам, музыкай і шампанскім, наладзілі нават народныя гульні. Самыя старыя назвалі гэтае здарэнне найвялікшым ад часоў Тызенгаўза, які — як вядома — аснаваў гэтыя пушчанскія вёскі.

Аўтобус будзе мець 5 курсаў у дзень. Двума курсамі можна таксама дабрацца непасрэдна ў Бельск Падляшскі і Беласток. Увядзенне аўтобуснай лініі вырашыла адначасова дзецям даезд у школу. Скарыстаюць з яе і турысты, якія пажадаюць завітаць ва ўрочышча Старая Белавежа.

Поўнае ўладжанне праблемы камунікацыі ў Белавежскай гміне (варта напомніць, што раней здадзена ў карыстанне аўтобусная лінія з Гайнаўкі ў Белавежу шашой і пабудаваны чыгуначны прыпынак у Грудках) цешыць і яе жыхароў і мясцовыя ўлады. Бо гэта супольная справа, выканана супольнымі сіламі.

**Пётр Байко**

Фота Артура Дамашэвіча



Гэтак прывіталі першы аўтобус у Тэрамісках.




# ЗМАГАННЕ ЗА ДУШУ

Наездзіўся Іван Бартнічук ваеннымі дарогамі, ой, наездзіўся!

А калі закончылася даволі крывавая для 2 польскага корпуса італьянская кампанія, калі 9 мая 1945 года адгрымелі апошнія залпы II сусветнай вайны, Івану Бартнічуку і яго баявым таварышам яшчэ даволі доўга давялося аставацца пад сонечным небам Італіі. Размясцілі іх у раёне гарадоў: Анкона, Балонія, Неапаль і Бары, разам — амаль 56 тысяч салдат і афіцэраў. Уліліся яны ў акупацыйную армію аліянтаў, якая наглядала за ўвядзеннем новага палітычнага ладу на Італьянскім паўвостраве.

— Нашы сапёры, — успамінае Іван Бартнічук, — дапамагалі будаваць могільнік-маўзалей паўшым польскім воінам пад Монтэ-Касіна.

„Прахожы, скажы свету, што яны загінулі за Польшчу!“ — гаворыць надпіс, высечаны на гэтым могільніку.

З мёртвымі, вядома, вялікага клопату не было. Іх прыбрала зямля-матуля — і слава ім вечная! Але што з жывымі? Дзе падзець і на чый кошт утрымліваць гэтую салдацкую масу?

Эміграцыйны польскі ўрад з прэзідэнтам Уладзіславам Рачкевічам і галоўнае камандаванне Польскімі Узброенымі Сіламі на Захадзе надалей прадаўжалі набор рэкрутаў і добраахвотнікаў у свае вайсковыя часці ўсюды там, дзе яны якраз знаходзіліся. Крыніцай папаўнення гэтай арміі з'яўляліся вызваленыя ваеннапалонныя, рабочыя, загнаныя ў заходнія раёны Нямеччыны на прымусовую працу, якія апынуліся ў зоне аліянтаў, а нават і даўнейшыя салдаты з гітлераўскага Вермахта, якія прызнаваліся да польскай нацыянальнасці. Гэтакім чынам Польскія Узброеныя Сілы на Захадзе ў месяц пасля заканчэння вайны налічвалі амаль 230 тысяч чалавек.

Асаблівыя намаганні ў колькасным павелічэнні сваёй арміі праяўляў заўсёды генерал Уладзіслаў Андэрс — галоўнакамандуючы 2 польскім корпусам у Італіі. Пасля заканчэння вайны гэты корпус разросся да звыш 100 тысяч чалавек. Нават брытанскаму камандаванню, якое несла фармальную адказнасць за існаванне Польскага Войска, не падабалася гэтакая нахабнасць генерала Андэрса. Маршал Г. Аляксандр пагражаў яму нават, што абмяжуе пастаўку штодзённых салдацкіх пайкоў на 20 тысяч штук, але камандуючы 2 польскім корпусам яго не паслухаў і загадаў сваёй аправізацыйнай службе, каб харчы для разбудаванай арміі заашчадзіць шляхам паменшання салдацкіх пайкоў, бо ведаў, што галодныя салдаты і так сабе знойдуць чым пажывіцца ў італьянскіх сялян.

Эміграцыйны ўрад лічыў, што гэтакая мілітарная сіла будзе немалаважным фактарам у палітычных змаганнях за лёс пасляваеннай Польшчы. Але яшчэ раз у гісторыі пацвярдзілася старая праўда, што непрысутныя не маюць голасу. Польшча, якая зноў вярнулася на свае старадаўнія, пястоўскія землі між Бугам а Одрай, ад пачатку 1945 года мела ўжо свой правамоцны Часовы ўрад Рэчыпаспалітай Польскай на чале з прэм'ер-міністрам Эдвардам Асубка-Мараўскім, прадстаўніком адроджанай Польскай сацыялістычнай партыі. Адным з яго намеснікаў з'яўляўся сакратар Польскай рабочай партыі Уладзіслаў Гамулка, які адначасова ўзначальваў і Міністэрства вернутых Паўночных і Заходніх земляў. На паўгода пазней, у ліпені 1945 года, пасля вяртання з эміграцыі Станіслава Мікалайчыка і некаторых іншых палітыкаў з лонданскага лагера, Часовы ўрад пашырыў свой склад і ператварыўся ў Часовы ўрад нацыянальнага адзінства — надалей пад кіраўніцтвам Эдварда Асубкі-Мараўскага.

Гэты ўрад ад пачатку свайго існавання лічыў таксама і Польскія Узброеныя Сілы на Захадзе састаўной часткай адроджанага Людовага Войска Польскага. Маршал Міхал Роля-Жымерскі, калі толькі даводзілася яму публічна выступаць, заўсёды пачынаў сваю прамову славамі: „Салдаты польскія ў краіне і на чужыне!“ Каманда над „Арміяй Польскай на Захадзе“ была даверана праслаўленаму ветэрану

# Жыццё пражыць — не песню праспяваць

Кажуць, што незнаёмыя людзі часцей усё раскажуць аб сабе, чым знаёмыя.

— У час акупацыі, — пачала гаварыць жанчына з Бранска, — нас усёй сям'ёю вывезлі ў Нямеччыну на работы. Працавалі мы ў маёнтку каля Альштына. Закепска там не было, але і не задобра. Немкі прынеслі нашым бабам свае паношаныя сукенкі, якія ім, як паням свету, ужо перасталі падабацца па сваёй модзе. Але ў полі працавалі ўсе: і мы і немцы. Я, хоць і дзіцём яшчэ была, працавала, бы дарослая. Нам дзялку далі, каб мы гародніну сабе садзілі і мелі. Мармеладу і маргарын давалі. Трусоў гадаваць дазволілі, вядома, для мяса. Мы бацькаву брату нават пачкі пасылалі. Немцы, аднак, часта давалі нам зразумець, дзе наша сапраўднае месца, значыць, месца парабкаў і рабоў. Калі Гітлер выйграе вайну, казалі яны, тады вы ўсё за нас будзеце рабіць, а мы будзем толькі спяваць ды гуляць...

Вайна закончылася так, як закончылася, і мы вярнуліся дамоў, у свой Бранск. Я пачала працаваць афіцыянткай, пазнаёмілася з адным хлопцам і выйшла за яго. Было нам добра, пакуль не нарадзілася дачка. З'явілася ў нас дзіця, а ён пачаў піць. Праз якія два гады было ўжо і другое дзіця, таксама дачка. А мой чалавек рабіўся ўсё горшы. Рэдка бываў ужо і дома. Потым пакінуў мяне з дзецьмі, некуды з'ехаў з Бранска. Я сваёй работы не кідала, дзяцей гадавала.

Пяць гадоў якіх правалачыўся ён гэтак па свеце і, урэшце, вярнуўся назад. Вядома, голы, бы бізун. Чула я, што звязаўся быў з адной жанчынаю ў Варшаве і дзіця з ёю меў... Я не звяртала на гэта ўвагі, прыняла яго дадому. Адзежыну яму купіла, абула, хоць трэба было пазыку на гэта браць. З месяц пражылі мы ў згодзе, а пасля ўзяўся ён падазраваць мяне ў тым, што я маю каханка! А таму маю, бо працую ў гасподзе. То ідзі ты працаваць, кажу яму, тады я кіну работу. Праўда, знайшоў ён нейкую работу сабе, але бяда — ізноў засеў за гарэлку. Я паглядзела на ўсё гэта і сказала яму, што работы свае не пакіну, бо не будзе як жыць далей. Ён тады пачаў скандаліць, прыходзіць з крыкамі на маю работу, наводзіць пярэпалах. Перавялі мяне рабіць на кухню. І ён — на кухню прылез са сваім доўгім языком. Нават з нажом у руцэ прыходзіў. Крычаў: заб'ю! За гэта яго пасадзілі на паўтара года. Пісьмы да мяне пісаў адтуль. Я думала: нарэшце зразумеў, апаматаўся, стаў дарослым.

Як толькі выйшаў ён з тае турмы, ізноў польку сваю закруціў. Пабіў мяне, пабіў насценны гадзіннік, шыбы з вокан павыбіваў, парэзаў абутак, адзенне, маё адзенне і дзяцей. Парваў — што даў рады парваць! Чыста апалеў, а я засталася голая, як тая мыш. Пайшла я ў міліцыю і кажу: бярыце яго хутчэй, і каб я яго ўжо больш не бачыла на свае вочы! Міліцыя, вядома, прыйшла, паглядзела на ўсю гэтую чаўпасу, забрала дурня з сабою, і зноў пачаў пісьманосец прыносіць мне пісьмы ад яго з турмы. Але я цяпер не адпісвала яму. Выпусцілі яго неяк праз год, прышоў ён да мяне, а я яму кажу: вон! Дзеці ўжо вялікія, самі рабіць стануць, а ты ідзі сабе, куды вочы панясуць.

Ён час ад часу ўсё прыходзіць да мяне, каб я з ім жыць разам зноў захацела. Я ўжо старая, і ён стары, дык нашто ён мне здаўся? Унукі вырастаюць, пра іх трэба клапаціцца. А ў мяне, калі не было жыцця ў маладыя гады, то не трэба мне і на старыя. Сама даю сабе рады.

Адна дачка — у Бельску. Муж яе ў Іраку на работах, добрыя грошы там бярэ. Другая мая дачка — ажно на Шлёнску. І мне хапае, хоць няшмат што свайго маю: во, агарод маю, на які нядаўна купіла дзве фуры чорнай зямлі, заплаціла за іх тысячу злотых. Так я і жыву.

**Аўрора**

# Нам адказваюць

Białystok, dnia 26-05-1986. W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Prywykli daić", zamieszczoną w „Niwie" nr 19/1565 z dnia 11 maja 1986 r. — Wojewódzki Związek Spółdzielni Mleczarskich informuje:

O zaliczeniu mleka do poszczególnych klas decyduje nie tylko próba reduktazowa, lecz szereg parametrów jak: czystość, gęstość, smak, zapach, kwasowość, zawartość tłuszczu i jego jakość higieniczna. Obowiązująca norma na mleko surowe PN-81/A-86002 nakłada bezwzględny obowiązek określania wszystkich wymienionych w niej cech jakościowych surowca zgodnie z obowiązującymi w tym zakresie przepisami.

Mleko skupowane od rolników przez Okręgową Spółdzielnię Mleczarską w Bielsku Podlaskim jest na ogół dobrej jakości, ponieważ w 1985 roku skupiono w I klasie 82,9%, w II — 12,3%, a w podstawowej tylko 4,8%. Średnia cena jednego litra mleka w roku ubiegłym, skupionego przez w/w Spółdzielnię wynosiła 23,38 zł.

Za m-c kwiecień br. jakość skupionego mleka przez OSM w Bielsku Podlaskim przedstawia się następująco: w klasie I — 82,6%, klasa II — 11,5%, klasa podstawowa — 5,9%. Średnia cena jednego litra skupionego mleka wynosiła 27,50 zł. Przy tym podajemy, że cena 1 litra mleka skupionego w woj. białostockim w m-cu IV wynosiła 27,58 zł. (przy zawartości tłuszczu 3,5%), natomiast cena zbytu mleka spożywczego wynosiła: mleko 2% — 6 zł, mleko 3,2% — 18 zł. Przy tym spółdzielnia mleczarska pokrywa koszty transportu, przetwórstwa.

Ceny skupowego mleka, jak też wyprodukowanych produktów mleczarskich ustala państwo, a nie spółdzielnia mleczarska. W interesie spółdzielni leży, aby skupione mleko od rolników było jak najwyższej jakości, wyprodukowanie z niego odpowiednich produktów i przekazanie konsumentowi.

Przewidziane w obowiązującej normie dwie klasy jakości mleka mają na celu poprawę jego jakości w skupie. Natomiast opłacalność mleka zależy od wielu czynników, a między innymi od zwiększenia produkcji mleka w gospodarstwie, a szczególnie przez podniesienie wydajności od krowy oraz zawartości tłuszczu i jego jakości higienicznej.

Jednocześnie informujemy, że opłacalność produkcji mleka leży w centrum uwagi Zarządu Centralnego Związku Spółdzielni Mleczarskich. Koszty produkcji mleka i jego rentowność są na bieżąco analizowane przez Instytut Przemysłu Mleczarskiego, a wyniki ich badań są podstawą dla Rady i Zarządu CZSMlecz. odnośnie wystąpienia do odpowiednich władz państwowych z wnioskiem o podwyżkę cen skupu mleka.

Prezes Zarządu
(podpis nieczytelny)
Wojewódzki Związek
Spółdzielni Mleczarskich
w Białymstoku

**Рэд.** І так, красамоўна тлумачачыся, нямнога нам вытлумачылі, хутчэй за ўсё пацвердзілі тое, пра што гаварылася ў артыкуле Крапівы II — „Прывыклі даіць".

# Родныя краявіды



**Драўлянае будаўніцтва XIX-XX стагоддзя ў Сямянічах. Графіка У. Петрука.**

іспанскай абароннай вайны генералу Каролю Сярчэўскаму-Вальтэру.

На жаль, урад Вялікабрытаніі не згадзіўся на гэтакае вырашэнне справы, хаця фармальна ўжо не прызнаваў лонданскага польскага ўрада з яго прэм'ер-міністрам Т. Арцішэўскім і прэзідэнтам Ул. Рачкевічам. Адначасова вялікабрытанскі каралеўскі ўрад не рабіў аніякіх перашкод, каб салдаты Польскіх Узброеных Сіл на Захадзе паасобку і арганізаваным чынам вярталіся на Радзіму. Наадварот, заахвочваў іх да гэтага. Пад канец сакавіка 1946 года польскія салдаты атрымалі зварот міністра замежных спраў англійскага ўрада Эрнеста Бевіна, які быў надрукаваны на польскай мове. Пачынаўся ён так: „Да ўсіх членаў Польскіх Узброеных Сіл...". У ім сцвярджалася, што ўсе жаўнеры Польскіх Узброеных Сіл, для якіх вяртанне на Радзіму з'яўляецца магчымым, павінны па ўласнай волі вярнуцца туды як мага хутчэй. Тым, аднак, салдатам, якія не хочуць вяртацца ў Польшчу, урад Вялікабрытаніі не можа даць аніякай гарантыі, што яны змогуць пасяліцца дзе-небудзь на тэрыторыі Вялікабрытанскай Імперыі.

Польскія генералы не хацелі аддаць каманду над польскім войскам і не пажадалі распускаць свае арміі. Асабліва рашуча супроць вяртання на Радзіму сваіх падначаленых выступаў генерал Андэрс. Ён ведаў, што між Бугам і Віслай найбольш заўзятыя ворагі народнай улады чакаюць яго вяртання, але вяртання на „белым кані", на чале звыш 100-тысячнай арміі, якая верне даваенныя парадкі ў Польшчы.

Круг гісторыі, на шчасце, ані Андэрсу, ані тым, хто яго чакаў між Бугам і Віслай, не ўдалося павярнуць у пажаданым для іх напрамку. Частка даўнейшых салдат вярнулася па ўласнай волі, каб спалучыцца з доўга не бачанымі сем'ямі, а для тых (каля 160 тыс. чалавек), якія рашылі астацца на чужыне, англійскі ўрад стварыў напалавіну вайсковую арганізацыю, якая называлася „Корпус прыспасаблення і размеркавання". Звычайныя салдаты зразумелі гэта па-свойму. Іван Бартнічук гаварыў мне, што прапанавалі ім, каб яны яшчэ два гады служылі пад англійскай камандай.

— А я ўжо даволі наездзіўся, набадзяўся і наслухаўся! — сцвярджае даўнейшы сапёр. — І не падабаліся мне адносіны большасці афіцэрскага корпуса да Савецкага Саюза. Рашыў я вяртацца.

Некаторыя яго аднапалчане ўжо раней, яшчэ восенню 1945 года, непасрэдна з Італіі, адправіліся ў Польшчу. Маршал Міхал Роля-Жымерскі прывітаў іх у краіне спецыяльным, урачыстым загадам.

Іван Бартнічук тады яшчэ не рашыўся вяртацца. Назойлівая антысавецкая прапаганда палохала салдат, што пасля вяртання на Радзіму пагоняць іх адразу ў калгасы або і звычайна зачыняць у астрогах. Дык разам з асноўнымі сіламі 2 польскага корпуса Іван Бартнічук найперш апынуўся ў Вялікабрытаніі, недзе пад Лонданам, і адтуль ужо вярнуўся дамоў, не прадчуваючы нават, якая заўзятая барацьба вялася за душу кожнага салдата.

— У Гданьску, — успамінае дзядзька Іван, — віталі нас з аркестрам.

Але тут ужо распачаўся цалкам іншы, на жаль, зусім нялёгкі раздзел яго жыцця, да якога трэба прыглядзецца асобна.

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 1)

## 45 ГОД ТАМУ НАЗАД

савецкіх і польскіх салдатах, якія аддалі сваё жыццё за тое, каб мы жылі. Трэба памятаць таксама і аб тых, хто выстаяў і выратаваў нас ад гібелі, хто прынёс нам вызваленне, хто каваў у тылу зброю перамогі. Паклонімся ж усім ім нізка — вядомым і невядомым.

Адным з былых салдат-вызваліцеляў быў Васіль Ганчарук з Хільмонаў, што на Дуброўшчыне, які знаходзіўся ў радах Савецкай Арміі, а пазней — у радах Войска Польскага. У II дывізіі імя Дамброўскага прайшоў ён ваенны шлях ад Акі да Люблiна і Варшавы. Пасля ўдзельнічаў у вызваленні Быдгашчы, у здабыванні Паморскага валу, Берліна — і на Эльбе закончыў свой баявы паход.

Працуе ён на гаспадарцы ў роднай вёсцы. Нядаўна перадаў яе свайму сыну і стаў пенсіянерам. Цяпер яму 67 год, але пакуль што адчувае сябе добра і радуецца вялікім палітычным і эканамічным пераўтварэнням у нашай краіне.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара

## БУДЗЕ ЛЕПШ

У пачатку года давялося мне ехаць чыгункаю з Беластока ў Зубкі. Гэтых шэсцьдзесят кіламетраў валокся я дзве гадзіны дзесяць хвілінаў, аж проста агоркла мне ўся гэтая язда. Кіраўнік цягніка растлумачыў: усё тут у нас старое, разбітае, таму так і валачэмся.

Пагаварыў я яшчэ з сім і з тым. Кажуць, будуць генеральныя рамонты і тады ўжо можна будзе нармальна даехаць у тыя Зубкі.

**Э. Вайсковіч**




Дарагое Сэрцайка, ты ўсім раіш і памагаеш. Мо і мне дапаможаш. Было так. Я хадзіла да сяброўкі. У яе быў жанаты брат. Аднаго вечара, калі я мела адыходзіць, ён сказаў жонцы, што пойдзе да суседа, але да суседа не пайшоў, а пайшоў, каб мяне падпільнаваць. Каля зараснікоў, дзе не было хат, падпільнаваў ён мяне, схапіў, як чорт грэшную душу, і павалок у карчы. Я з таго ўсяго не ведала, што рабіць: крычаць не адважылася, бо і так маглі б не ўчуць, паабдзірацъ яго баялася, бо ўжо да сяброўкі больш не пайшла б. І так я яму паддалася.

Пасля таго, праз нейкі час я пайшла ў суседнюю вёску на музыкі. Іду я гэтак праз вёску, а тут выходзіць з панадворка хлопец, які адзін жыве, і кажа: „Хадзі да мяне ў хату!“ Я іду, але бачу, штосьці ён неахвотна ідзе і гаворыць: „Я не спадзяваўся, што ты адразу пойдзеш да мяне ў хату“. Было тады месячна. Калі ўвайшлі мы да яго, на стале відаць былі чаркі. Я ўключыла святло, але ён выключыў. Баяўся, каб хто не ўбачыў, што я ў яго хаце. Вокны не былі заслонены. Я зноў уключыла святло, і каля люстэрка папраўляла валасы. Ён запрапанаваў выпіць лепшай гарэлкі. Ну, і выпілі. А калі выпілі, ён узяў мяне за руку, каб перайсці на тапчан. Я сказала: „Не цягні, я і сама пайду“! Ён сказаў: „Я такі: калі не есці, то ў рот не браць!“ Яшчэ сказаў што я яму спадабалася, а я сказала: „Каб ты мне не спадабаўся, то я б сама да цябе ў хату не пайшла б“! З тых пор мы з гэтым хлопцам пасябравалі, ён праводзіў мяне дахаты каля вакон іншых хат вечарам і каля тых зараснікоў, дзе мяне падпільнаваў жанаты.

Аднаго разу я ішла вечарком на сяло, і той самы жанаты мужчына пайшоў у тыя зараснікі: Я здагадалася, што ён будзе чакаць мяне, калі я буду ісці з сяла. Мы са сваім хлопцам даўгавата пасядзелі ў сяле на лавачцы. Калі я адыходзіла дахаты, ён хацеў мяне правесці, але я яму не дазволіла на гэта, каб хаця пры ім не выйшаў той мужчына, што мяне чакаў у карчах. Мой хлопец, нічога не сказаўшы, вярнуўся.

Іду я адна, а тут галлё затрашчала, і такі той мужчына да мяне выскачыў.

Праз нейкі час, калі я сустрэлася са сваім хлопцам, ён стаў мяне канкрэтна пытаць, чаму я не захацела, каб ён мяне правёў. Дык кажу, што не хацела, бо каля вакон трэба было ісці, а ён мне на гэта: „А то ж мы не раз каля тых вакон хадзілі? Не, даражэнькая, тады там штосьці мусіла быць. Ты, бадай, дагаварылася з кімсьці іншым. Я пра цябе думаю сур'ёзна і хачу з табой ажаніцца, калі ты мне скажаш праўду пра той вечар. Не важна, што там было і як там было, усяляк магло быць. Але калі прызнаешся, то я табе ўсё дарую. Я гэтага дамагаюся, каб ты ведала, што я не такі, якога б ты ў будучыні магла ашукваць. Не бойся, ты ж яшчэ не мая жонка! І я не святы, але па-мойму тады там штосьці мусіла быць“.

Сэрцайка, я магла б не прызнацца, але думаю, што, можа, ён падыйшоў і штосьці крыху мог бачыць. Сэрцайка, дарагое, парай як мне хітрэй з гэтага выкруціцца?

**Аля з-пад Міхалова**

Аля! Усё залежыць ад таго жанатага. Можа, ён у цябе так утрэскаўся, што жыць не дасць. Каб табе ў шлюбных планах зашкодзіць, можа ў злосці расказаць твайму хлопцу пра ўсё (пра жонку сваю тады не думаючы).

Ну, але што б ён нават расказаў — што згвалціў цябе? Хаця... не сказаць, каб гэта быў гвалт — ты ж не баранілася, не крычала, не адбівалася. У міліцыю пра гвалт таксама не паведаміла. Дык вось мяркуй сама... Зрабіла ты з сябе, дзяўчына, памыйную яму, а цяпер не ведаеш, як з гэтага ўсяго выкруціцца. І гэта якраз тут найстрашнейшае, а не тое, што падумае пра цябе твой хлопец. Зрэшты, на дурня ён не выглядае, можа зразумее ўсё як трэба. Але, зразумеўшы, павінен адвярнуцца ад цябе: лягчэй было б яму даравaць табе, калі б ведаў, што быў у цябе нейкі каханы хлопец перад ім. А так вось можа ён падумаць, што гэтыя метады — у тваім характары, тым больш, што і да яго пайшла ты, як толькі кіўнуў пальцам. Жаніцца з табой, бадай, ён не захоча. Так што — рашай сама, але ні мана, ні праўда тут табе, бадай, не дапамогуць.

**Сэрцайка**

P.S. А так, паціху, прызнайся, Аля, — пайшла ж другі раз у карчы з жанатым, га?




## ЯЛАВІЧЫНА — ІНАКШ

### Мяса па-беларуску

На 600 г ялавічыны трэба ўзяць 2 цыбуліны, 2 сталовыя лыжкі сцертага на тарцы чэрствага чорнага хлеба, 3 сталовыя лыжкі масла, 2 шклянкі смятаннага соусу, соль.

Мяса нарэзаць порцыямі, збіць яго, пасаліць, абсыпаць дробна пасечанай цыбуляй і паніраваць у цёртым хлебе. Пасля тушыць на масле, даліўшы вады. Падаваць з вараной бульбай, паліўшы мяса смятанным соусам.

Смятанны соус падрыхтоўваем наступным чынам. На 1 шклянку смятаны бярэм 1 шклянку мяснога булёну, 1 сталовую лыжку мукі, 1 сталовую лыжку масла, соль. Муку крыху падсмажваем і разводзім гарачым булёнам. Працадзіўшы даліваем смятану і варым на малым агні 5-10 мінут, пасля чаго дадаем масла і соль ды добра перамешваем.

Гэты соус можна таксама падрыхтаваць з цыбуляй. Яе дадаюць у соус пад канец варкі, перад гэтым дробна нарэзаўшы і падсмажыўшы.

### Салодка-кіслае мяса

На паўкілаграма ялавічыны трэба ўзяць 1 сталовую лыжку масла ці шмальцу, 1 цыбуліну, 2 сталовыя лыжкі памідорнага перацёру, 1 сталовую лыжку цукру, 2 сталовыя лыжкі сцертага на тарцы чэрствага жытняга хлеба, 1 мядовы пернік, 1 лыжку 2-працэнтнага раствору лімоннай кіслаты, лаўровы лісток, перац, прыправы (якую хто любіць), соль.

Нарэзанае невялікімі кавалачкамі мяса абсмажыць, дадаць перац, лаўровы лісток, а таксама падсмажаную цыбулю і тушыць каля 2 гадзін (у залежнасці ад таго, як хто любіць, мяса можа быць вельмі мяккае, разваранае, але таксама і цвердаватае, не пераваранае). У час тушэння даліваць найлепш булён, але можна і ваду. Сачыць толькі трэба, каб не было залішне вадкасці.

Недзе ў палове тушэння трэба дадаць сцерты на тарцы чэрствы жытні хлеб, пернік, памідорны перацёр, цукар, раствор лімоннай кіслаты і прыправы.

Гэтак спамянутую ялавічыну на Беларусі падаюць з варанай ці смажанай бульбай. Вельмі смакавала б гэтая страва і з вараным рысам.

**Гаспадыня**

# СОННІК

25

**Вяроўка** — непрыемнасці.
**Вяртанне** — прыемная неспадзяванка.
**Вяселле** — быць у ім — пагаршэнне твайго стану; танцаваць на ім — асцерагайся жанчын (мужчын); тваё — заснуеш уласную сям'ю; вясельны карагод — цябе пакахаюць, а ты не будзеш ведаць пра тое; хуткі шлюб: вясельнікі — сямейнае шчасце.
**Вясёлка** (тэнча) — шматабяцаючая будучыня для тваіх спраў і планаў.
**Вясёлым** быць — памяркоўнае жыццё; бачыць вясёлых — смутак, няўдачы ў жыцці.
**Вясковая** маёмасць, гаспадарка — здабудзеш верных прыяцеляў.
**Вясна** — закахаешся.
**Вятрак** — праз памылку сама сабе пашкодзіш; нерухомы — лянота.
**Вячэра** — удача ў працы, школе ці на гаспадарцы; сямейнае шчасце; шануй сваё здароўе.

### Г

**Габляваць** — засмучанне; сумнае здарэнне ў сям'і.
**Гадзіннік** — непрыемная сустрэча; б'е — памятай: час — гэта грошы; залаты — асцерагайся злодзея; накручваць — спатканне; ненакручаны — празяваць зручную аказію; на вежы — да цябе звернуцца за парадай; наручны — упарадкаванне спраў; знайсці — трэба быць пунктуальным (ай); згубіць — табою кіруюць іншыя; затрымаўся — смерць знаёмага (ай); гадзіннікавы майстар — прыкрая справа.
**Гадзіны** выбівае гадзіннік — выкананне абавязкаў прынясе табе шчасце.
**Газ** — вясёлая забава; гатаваць на газе — хуткае здзяйсненне зычанняў і мараў.

 © PDF: Kamunikat.org 2023

# Зорка

## Старонка для дзяцей

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ЛЕТА!

Дзень добры, ласкавае лета!
Ты сонцам радасным сагрэта.
Ідзеш лугамі,
Па лясах,
Вясёлку несучы ў руках.

Ты залатым звініш дажджом,
Бяжыш з сачком за матыльком,
На рэчцы бавіш вольны час,
З сабою клічаш, лета, нас.

Лена Шэвелева, вучаніца

Захар Бірала

## А НАШ ЯНАЧКА ТАКІ...

А наш Янaчка такі:..
Запісаўся у гурткі —
Танцавальны і музычны,
„Мяккай цацкі“, драматычны,
У спартыўны, цыркавы...
Не стаміліся шчэ вы?

Сябры кажуць:
— Ого-го!
Хопіць, можа, аднаго?
— Што вы, што вы,
Я гатовы ўсюды быць,
Усё рабіць!

Але дзе мы бачым Янку?
Каля рэчкі ён ад ранку
Пудзіць птушак,
Ловіць мушак,
Ні ў адзін гурток не йдзе.
Ён усюды... і нідзе.



Удзельнікі конкурсу беларускай песні з Вулькі Нурэцкай са сваёй настаўніцай Элеанорай Баран. Фота Я. Чэрнякевіч.



Удзельнікі конкурсу беларускай песні з Дубінаў з настаўнікам Пятром Скепкам. Фота Я. Чэрнякевіч.

Уладзімір Юрэвіч

## НАПЕРАДЗЕ НЕ СТРАШНА

Калі Лукашку было тры гады, яму купілі веласіпед. Колы чырвоныя, надзіманыя, як тоўстыя абаранкі, а побач, для страхоўкі, маленькія пластмасавыя прымацаваны.

Паездзіў Лукашок месяцы два нагледзеўся, як старэйшыя за яго дзеці ганяюць такія ж веласіпеды без страхоўкі. Ніяк не ўгонішся за імі. Здавалася Лукашку, што маленькія колы-апоры замінаюць, тармозяць увесь час. Без іх ён, пэўна, перагнаў бы ўсіх.

Паездзіў Лукашок месяцы два, каб пазнімаў ён маленькія колцы. Здаецца, той ужо наважыўся быў гэта зрабіць, дастаў ключ. Але тут згледзела мама, што бацька з сынам робяць, і закрычала:

— Што ты, Лукашок?! Перакулішся і нос разаб'еш. Ты ж яшчэ маленькі.

Лукашок занудзіўся, пачаў гаварыць маме, што ён ужо не малы, а вялікі. А вялікія ўсе — Віця, Грыша, Толя — ездзяць на двух колах. Нічога не памагала, мама стаяла на сваім.

Аднойчы тата прыйшоў з работы яшчэ завідна, ён працаваў на першай змене. Мамы дома не было. Тата забраў Лукашку з прадшколля раней, адразу пасля падвячорка.

Не паспелі ўвайсці ў хату, як Лукашок схапіў веласіпед і на двор. Тата пайшоў следам. Нікога з суседскіх дзяцей не было. Неўзабаве выйшаў Віця са сваім двухколавым веласіпедам. Сеў і пашыбаваў уздоўж дома, ды так шпарка, што не дагоніш... Тата з Лукашком прыселі на лавачцы. Пад'ехаў Віця і пытаецца:

— Лукашок, а чаму ты не ездзіш на сваім?

— Так, — адказаў той нявесела.

Тата заўважыў гэта і да Віці:

— Ты замарыўся? Адпачні, паглядзі, як Лукашок будзе вучыцца на двух колах ездзіць. Дай яму свой веласіпед.

Віця сумеўся трохі, але сказаў:

— Бярыце.

Тата пачаў тлумачыць Лукашку:

— Бярыся за руль, ногі на педалі... Не бойся, я цябе трымаю... А цяпер глядзі наперад і націскай на педалі.

Лукашок крануўся, але нейкая сіла павяла яго ўлева. Ён адчуў, што падае, і абедзвюма нагамі стаў на зямлю.

— Страшна, — сказаў ледзь чутна.

— Не глядзі на ногі, глядзі толькі наперад, — паўтараў каторы раз тата. Не бойся, я трымаю цябе.

Лукашок зноў націскае на педалі, трохі едзе, але яму так хочацца глянуць уніз, на ногі, што ён не вытрымлівае, апускае вочы долу і адразу ж падае.

— Ну вось,. ужо лепш... Глядзі толькі наперад, — паўтарае тата. — Калі глядзіш наперад, страх знікае, а зірнеш уніз — і ён пачынае блытацца ў тваіх нагах, не дае круціць педалі. Да-

(Працяг на стар. 10)



 © PDF: Kamunikat.org 2023

Леў Кузьмін

# ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ

Я сядзеў ля рыбацкага вогнішча, слухаў, як пад чорным берагам булькае рэчка, чысціў сцізорыкам слізкіх акунькоў і раптам чую — у лугавой цемры ўздоўж берага ўпэўненыя, выразныя крокі. Адразу здагадваюся: чалавек ідзе дужы, высокага росту. Такім ён і ўвайшоў у багровае святло вогнішча.

— Прымаеш у суполку? Мае язі, твае акуні, уха — супольная...

Я, не раздумваючы, адказаў:

— Хай будзе супольная!

Слова за словам, і я ўжо ведаю: майго нечаканага таварыша завуць Іван. Ён працуе на будове брыгадзірам. Калі ён назваў сваё прозвішча, я адразу ўспомніў:

— Ці гэта не ваш партрэт быў нядаўна ў газеце?

Іван нават не здзівіўся:

— Ага, мой. Але пачалося ўсё ад майго сына-школьніка Алежкі.

— Як гэта? Чаму школьніка?

— Дык вось паслухай...

Працаваў я раней на будове. Спецыяльнасць мая — каменшчык. Заработкі — грэх было б наракаць. Колькі цэглы пакладу, столькі і грошай нясу дадому. І вось гэтыя грошы я, здарэцца, пачаў лічыць самым галоўным у сваім жыцці. Тым і ганарыўся, і хваліўся, колькі зарабіў. І так вось усё ішло. Аж тут раптам — павярнулася. А паварот гэты здарыўся пасля чарговай выплаты. Прыходжу дадому і адразу грошы перад жонкай на стол — хлоп! Паглядзі, колькі! Жонка смяецца, цешыцца, а я таксама ганарыста стаю. І ў гэты момант прыбягае з двара Алежка мой, школьнік. Убягае і крычыць:

— Тата, дачакацца цябе не магу! Хадзі хутчэй да майго стала...

Я хуценька пераапранаюся, іду да Алежкі. А ў яго на століку сшытак, і на чыстай старонцы загаловак: „Мой тата — будаўнік". Я на Алежку гляджу:

— Што гэта мае значыць?

— Дамашняе заданне! — хутчэй выясняе Алежка. — Расказвай пра сваю работу, але цікавей, бо ты мне ніколі нічога не расказваў, а без цябе, тата, я гэтага не напішу.

Я як пачуў гэта, разгубіўся. Аб чым, думаю, расказваць? Аб сваіх метрах, ці што? Аб грошах? Дык у класе ж сыну жыць не дадуць... Яго абсмяюць, а я, як сляпы крот, нічым яму памагчы не змагу, бо ўсё цікавае аб сабе і сам забыўся.

— Да заўтра, — кажу, — можна пачакаць?

— Наогул, можна, — згаджаецца Алежка, — але памятай, не падвядзі.

Прасядзеў я ў той вечар да позняй пары. Алежка з маці даўно спаць пайшлі, а мне няма спакою. Сяджу, раздумваю. Пагляджваю з акна дванаццатага паверха на горад і адзначаю: вунь там, і там, і там ёсць і мая праца. Узніклі тыя дамы не з нічога, а з маіх кубаметраў цэглы, за якімі я далей свайго носа даўно ўжо перастаў бачыць, а цяпер пасля канфуза з Алежкам нібы нанова ўбачыў. Ад новага погляду, ад шырыні гэтай у мяне нават сэрца зайшлося. І вось мне захацелася цяпер спячаму сыну закрычаць: „Прачніся, паглядзі! Не проста я так цэглы клаў, а будаваў горад для людзей". Хацеў закрычаць, ды не закрычаў. Таму што ўспомніў: узнёс гэтую прыгажосць пад небам я не адзін, а з таварышамі. І таварышы мае, мабыць, і ёсць тое самае галоўнае, аб чым трэба і расказаць Алежку. І верыш ці не, ледзь дачакаўся я тады раніцы. На досвітку буджу Алежку:

— Табе ў школу пасля абеду, дык хадзі са мною, сынок, на маю рабочую змену. Там ты дамашняе заданне з натуры змалюеш.

Алежка — хлопец у мяне спрытны. І вось я з ім у тую раніцу пайшоў перайначваць сваё шэрае жыццё.

А добрыя сябры-таварышы усім, як гаворыцца, адкрытым тварам да мяне павярнуліся. І больш таго, даверылі мне цяпер стаць у іх брыгадзірам. І таму цяпер я ў газеце. Праўда, лепш было б, каб партрэт зрабілі ўсёй нашай брыгады.

— Яшчэ зробяць... Вось будзе пісаць Алежка на тэму „Татава брыгада" — і вашай брыгадзе не ўцячы тады ад партрэта ўсім калектывам.

Але Іван на мой жарт адгукнуўся сур'ёзна:

— А што! Так якраз можа і быць. Чым больш цікавяцца нашыя дзеці справамі дарослых, тым нам, дарослым, працаваць цікавей, ахвотней. І ў гэтым няма нічога дзіўнага.

(Працяг са стар. 9)

### НАПЕРАДЗЕ НЕ СТРАШНА

вай яшчэ раз. Кіруйся вунь на тую бярозку, што ў канцы двара расце... Куды хілішся, туды і руль вярні. Павернеш — веласіпед сам пакоціцца роўненька.

Глядзіць Лукашок на прыгожую бярозку ў зялёным уборы, націскае на педалі і едзе. Едзе роўна, адчувае, як тата прытрымлівае яго за плечы. Едзе, едзе і не думае хіліцца ні ўправа, ні ўлева. Даехаў-такі да бярозкі, і ўздыхнуў: „Ух!" Хацеў сказаць: „Як цяжка", а сказалася само сабой: „Як добра!".

— Праўда, добра? — перапытаў тата.

— Ага, — пацвердзіў узрадаваны Лукашок, завярнуўся з веласіпедам, каб ехаць назад. Але як: бярозкі не відаць, яна засталася ззаду.

— А куды мне цяпер кіравацца? — пытае ў таты.

— На мяне, — сказаў тата і хуценька пайшоў на тое месца, адкуль яны з Лукашком пачыналі ехаць. — Чакай толькі, я скамандую.

Тата стаяў, падняўшы рукі ўгору, і камандаваў сыну:

— Глядзі на мяне, націскай на педалі... Паехалі!..

Лукашок і не думае пазіраць уніз. Колы бягуць самі, нясуць яго ўсё далей і далей ад страху. Ён ужо не блытаецца ў нагах. Ён згубіўся недзе па дарозе.

— Наперадзе не страшна, праўда? — пытаецца Лукашок, калі пад'язджае да таты.

Тата дастае ключ, адкручвае дадатковыя колцы. Лукашок, узрадаваны, што перамог страх. Зноў садзіцца на веласіпед. Побач Віця на сваім. Яны кіруюцца на бярозку ў канцы двара. І абодвум не страшна.

# СВЯТА МАЦІ І ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ

25 мая, напярэдадні Дня Маці ў рамізе ў Рыбаках адбылася ўрачыстасць у сувязі са святам усіх мам. Арганізавалі сустрэчу мясцовыя настаўніцы. Дзеці з Рыбакоў і Бандароў падрыхтавалі слоўна-музычны мантаж прысвечаны Дню Маці. Дзеці пастараліся, а мамы былі вельмі расчулены такім прыёмам.

31 мая ў Бандарах адбылася падобная ўрачыстасць, падрыхтаваная да Дня Дзіцяці. Арганізавалі яе мамы і настаўніцы.

Дзеці падрыхтавалі фестываль моладзі свету — зрабілі прыгожыя касцюмы розных народаў з розных бакоў свету. Былі тут прадстаўнікі ўсіх кантынентаў: негрыцянкі з гарачай Афрыкі і каўбоі з Мантаны, рускія і беларусы, якія спявалі вядомую ўсім песню „Беларусачка", быў і араб у нацыянальным касцюме. А ўсе разам спявалі шмат розных свойскіх песень, пратэставалі супраць вайны і злачынстваў, выступалі поўным голасам у абарону міру на зямлі.

Пасля канцэрту мамы пажадалі дзецям усяго найлепшага ў Дзень іх свята і запрасілі на пачастунак. Цукеркі, розные пячэнне, бабкі, галярэткі выглядалі вельмі ж калярова і смакавіта. Дзеці з вялікім апетытам частаваліся прысмакамі. А потым была дыскатэка.

**Рыта**



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*19 мая ў нашай школе адбыўся кірмаш кніжкі. На пачатку вучаніца восьмага класа Эля Саковіч пазнаёміла ўсіх прысутных з традыцыяй святкавання Дзён асветы, кніжкі і прэсы ў Польшчы. Потым вучні пятага і шостага класаў чыталі вершы пра кніжку. Вершы ўсім вельмі падабаліся.*

*У другой зале былі раскладзены прыгожыя і каляровыя кніжкі. Усе ахвотна іх аглядалі і куплялі. Хлопцам найбольш падабаліся коміксы. Ахвотных купіць кніжку было больш, чым кніжак.*

*Усім дзяўчаткам і хлопчыкам, якія чытаюць „Зорку", прапануем развязаць наш красворд.*

1. Першы веснавы месяц. 2. Імя дзяўчынкі. 3 Гэтае дрэва любяць пчолы. 4. У лесе мы ўсе ахвотна збіраем. 5. Любіць вавёрка.

*Калі адгадаеце наш красворд, даведаецеся, хто ваш найлепшы сябар. Думаем, што будзеце з намі згодны.*

*З прывітаннем для „Зоркі" і яе чытачоў*

**Вучні шостага класа з Пасынак (15 подпісаў)**

1.

2.

3.

4.

5.

## Вучнёўская творчасць

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Да Дня маці мы пісалі вершы. Хочам, каб Ты іх надрукавала. І вельмі будзем удзячны за гэта.

**Вучаніцы 5 „Б" класа з Орлі.**

### МАЯ МАМА

Мама — слова незвычайнае!  
Мама — слова на свеце адно.  
Мама, Мамаша, Матуля —  
А значыць гэта тое самае.  
Мама — гэта мы.

Мама — слова няпростае,  
У слове гэтым гарыць зара.  
Гэтае слова, як гром,  
Кароткае слова — МАМА

**Іра Майстровіч**

* * *

Мая мама — гэта ружа,  
Што цвіце вясной і летам.  
Я сваю маму цэлым сэрцам  
Люблю і шаную.  
Калі яна засмяецца —  
Увесь свет пяснее.  
Сёння яе свята,  
І я яе шчыра віншую!

**Ляся Гаворка**

### МАМА

Цудоўны ветрык летам,  
Калі грэе мае шчокі.  
Цудоўны голас птушак,  
Калі спяваюць у лесе.  
А смех маёй мамы  
Найцудаўнейшы.

**Аліна Дружба**

### МАЯ МАМА

Мая мама залатая,  
Мая мама дарагая,  
Мая мама найлепшая,  
Як нікто на свеце.  
Яе вочы, як зоры,  
Усё глядзяць на мяне  
Удзень і ўночы.  
Яна ніколі не плача,  
Яна ніколі не злуецца,  
Яна заўсёды нас туліць.

**Эля Дружба**

### ДАРАГАЯ МАМА

Мама добрая,  
Мама дарагая,  
Дзякую Табе  
За ўсё маё жыццё!

**Крыся Шарала**

### КВЕТКІ ДЛЯ МАМЫ

Сёння Свята Мам,  
Усіх Мам на свеце.  
Прыносім кветкі ім  
Найпрыгажэйшае квецце.

Няхай кветкі гэтыя  
Шчасце ім нясуць.

**Анеля Федаровіч**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-959 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 21 чэрвеня г.г. а 18-ай.

# КОЛЬКІ Ў НЕБЕ ЗОР

Словы і музыка А. Шыдлоўскага



Колькі ў небе зор — цяжка палічыць,
Толькі з іх адна найярчэй гарыць.
Гэта ты, мая зорка ясная,
Ты, любоў мая непагасная.

У працы і ў жыцці добра нам з табой
Марыць і любіць з песняй маладой.
Дзе так добра жыць, дзе такі прастор,
Шчасця больш у нас, як на небе зор.

Край шырокі наш, мірны, дарагі,
І бягуць удаль светлыя шляхі.
Мне з табой па іх хочацца ісці
І дзяліць усё разам у жыцці.

Колькі ў небе зор — цяжка палічыць,
Толькі з іх адна найярчэй гарыць.
Гэта ты, мая зорка ясная,
Ты, любоў мая непагасная.



— Як табе падабаецца ідэя?..

# НІЎКА



### БЯДА

Муж і жонка ў разгубленасці стаяць ля дома. Сусед пытае:

— Што здарылася?

— Бяда! Ключы ад гаража ў кватэры, ключы ад кватэры ў аўтамабілі, а аўтамабіль у гаражы.

### ЗАЙЗДРАСЦЬ

— Вы таленавіты чалавек...

— Чаму ж вы гаворыце гэта шэптам?

— Не хачу, каб хтонебудзь яшчэ пачуў...

### АБУРЭННЕ

— Калі ўжо я купіў такі дарагі білет на гэты канцэрт, то не дапушчу, каб дырыжор стаяў да мяне спіной!

### ПАМЫЛКА

Малады бацька штурхае перад сабой па алеі парку дзіцячую каляску. З яе немым голасам раве дзіця. Бацька нагойдвае каляску і паўтарае:

— Спакой, Славамір, толькі спакой, Славамір.

Бабуля, што праходзіла міма, спыняецца ля каляскі і, усміхаючыся, гаворыць:

— Ах, які мілы хлопчык! І якое ў яго прыгожае імя — Славамір!

— Вы памыляецеся, пані. Хлопца завуць Аляксандр, Славамір — гэта я!

### СЭКАНОМІЎ

— Мамачка, я сёння сэканоміў дзесяць злотых.

— Якім чынам?

— Вельмі проста! Тваю ананімку на пані Задрыпкоўскую я занёс не на пошту, а проста ёй у рукі.



У нас дырэктар як дзіця: што не так — адразу ў крык.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Калістратавіч! Маланка барана забіла!

— Вось табе і на! А дзе ж аўчары былі? — грыміць заатэхнік.

*

Настаўнік Хансен быў дастаўлены ў бальніцу і пасля аказання дапамогі змешчаны ў палату.

— Аўтамабільная катастрофа? — цікавіцца сусед.

— Не, памылка друку ў падручніку па хіміі.

*

— Дарагая, — гаворыць малады муж сваёй палавіне, — я параўнаў свае выдаткі на вяселле з вартасцю твайго пасагу.

— І што?

— Атрымалася, што я ажаніўся з табою па любві...

### СУПАКОІЎ

— Таварыш дырэктар, тэрыторыя завода так забруджана, што сам чорт нагу зломіць.

— Адкрыем медпункт, — супакоіў дырэктар.

### ПЕРААЦЭНКА КАШТОЎНАСЦІ

— Вашага мужа ўсе высока цэняць.

— Ведалі б, што ён ужо не ў гандлі, зрабілі б пераацэнку.

### НАПАМІНАК

— Ты ж, мужычок, за час майго водпуску запусціў хату. Ніякага парадку няма.

— Калі ты, дарагая, паехала адпачываць, я ўсё пакінуў так, як было, каб яно напаміпала аб табе.

### З „Весніка Задрыпоніі“

### ШКОДНЫЯ ЎМОВЫ

На прафсаюзным сходзе кухар Трыбуховіч патрабаваў ад адміністрацыі дадатковых дзён да штогадовага водпуску і талонаў на малако за шкодныя ўмовы харчавання для калектыву сталовай № 6.

### АБ'ЯВА

Бландзінкай у машыне блакітнага колеру забыта газета. Уладальнікаў „Малышоў“ просьба не непакоіць.



Зусім як дома.



— Уставай! Суддзя не залічыў гэты гол.



Укараніўся.

# Курёзы

### ДРУЖНЫМ КАЛЕКТЫВАМ...

Тром маладым дамачкам з італьянскага горада Форлі давялося змяніць месца начлегу — адбываць пакаранне ў мясцовай турме, маючы права выходзіць з яе на працягу дня. Але нейк у належны час яны ў камеры не вярнуліся. Паліцыя з ног збілася, расшукоўваючы іх. І такі знайшла. Чацвертым жа ў гэтай вясёлай кампаніі быў... дырэктар той жа турмы. Гэта ён і запрасіў дамачак перакуліць нейкую там чарачку-другую...

### У НЕЗВЫЧАЙНАЙ РОЛІ

Тэатральны дырэктар Майк Малінз з г. Сіднея добраахвотна згадзіўся выступіць у незвычайнай ролі: дваццаць адзін дзень ён быў экспанатам мясцовага заапарка. Праўда, бетонную клетку, у якой ён экспанаваўся, падрыхтавалі пад добра абсталяваны пакой.

Прадстаўніка роду людскога выставілі на агляд наведвальнікаў заапарка як „найнебяспечнейшую жывёліну ў свеце“ за „здольнасць знішчыць сваё жыццёвае асяроддзе“.




У некаторых людзей многа розуму таму, што яны яго не расходуюць.